*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

Клеменс МАЕР

# НОЧ. АГНІ



***Клеменс Маер нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гале. Нехта кажа, што ён быў створаны, каб апісваць цёмныя старонкі жыцця. Іншыя называюць яго enfant terrible нямецкай літаратуры. І часта крытыкуюць за татуіроўкі, якімі пакрыта значная частка яго цела. Сам пра сябе ў адным з інтэрв'ю ён сказаў: «Я — індывідуаліст... Я адразу насцярожваюся, калі нехта кажа пра "нас" або пра "пакаленне". Кожны памірае ў адзіночку». Кніга Die Nacht, die Lichter («Ноч. Агні»), у якую ўвайшлі апавяданні In den Gängen («Між стэлажоў») і Der kleine Tod («Маленькая смерць»), была напісана ў 2008 годзе. За яе аўтар атрымаў узнагароду на Лейпцыгскім кніжным кірмашы. Кніга апавядае пра няўдачнікаў, людзей, якія страцілі ілюзіі і перспектывы. Аўтар паказвае, што і ў іх жыцці ёсць месца каханню, смеласці і сяброўству.***

## МІЖ СТЭЛАЖОЎ

Перад тым, як я ўладкаваўся грузчыкам і пачаў праводзіць вечары і ночы між стэлажоў гіпермаркета, парадкаваць паліцы, даставаць аўтапагрузчыкам паддоны з самага верху, даваць час ад часу камусьці з апошніх наведвальнікаў парады і знаёміцца з усімі магчымымі відамі прадуктаў, я пару гадоў працаваў на будоўлі.

Я сышоў адтуль не па сваім жаданні, але, нават калі б начальнік мяне не звольніў, я нядоўга яшчэ прымаў бы ва ўсім гэтым удзел. Я быў падсобным рабочым: цягаў мяхі з цэментам і гіпсакардонныя лісты, дэманціраваў кватэры, абіваючы тынк са сцен і зносячы каміны і коміны вялікай кувалдай, якую мы называлі «Бэла», датуль, пакуль не пакрываўся сажай і пылам. Потым дома мне трэба было некалькі гадзін, каб вычысціць ад гэтай сажы і пылу нос. Плацілі на гэтай фірме не вельмі, а шэф быў паскуда. Ён быў з Баварыі, але я сустракаў баварцаў, з якімі не было ніякіх праблем.

Я ўжо не памятаю дакладна, калі пачалася тая вялікая непрыемнасць з шэфам, але памятаю, што ў той дзень зносілі стары дах. Мы знайшлі вялі-

кія галубіныя могілкі. Там былі два галубы, якія вельмі ціха сядзелі пасярод касцей, гор пер'я, напалову сатлелых і ўжо высахлых цел. І толькі па іх вачах і тулавах, якія часам крыху рухаліся, мы ўбачылі, што яны жывыя. Мы паклікалі партугальцаў — і яны забілі гэтых галубоў рыдлёўкай. Потым мы пасыпалі галубіныя могілкі вапнай, згрэблі ўсё ў вёдры і высыпалі ў трубу для смецця, якая была знадворку прымацавана да рыштавання.

Пасля нам было ўжо не да цяжкай працы, галубы выбілі нас з каляіны. Мы без настрою знялі наступную частку даху, прыбралі з дапамогай цвікадзёра латы і зрабілі перапынак на абед.

Звычайна мы рабілі перапынак на абед а палове на дванаццатую, а ў дванаццаць, калі ў царкве, што была адразу за рагом, званілі званы, мы працягвалі працу.

Але калі званы зазванілі ў той раз, мы не скрануліся з месца, а сядзелі разам з партугальцамі, якія пілі чырвонае віно з тэтрапакаў. Партугальцы дрэнна размаўлялі па-нямецку, зараблялі менш за нас і жылі ў маленькіх кватэрах у падвале аднаго з дамоў, што належалі шэфу. Яны пілі чырвонае віно падчас працы, бо ведалі, што шэф іх ніколі не звольніць. Надта добрая праца за малыя грошы. Яны працавалі мулярамі і тынкоўшчыкамі, а часам былі і падсобнымі рабочымі, як мы.

А калі адбылася непрыемнасць з шэфам і я два разы ўдарыў яго па твары сваёй рабочай пальчаткай з застылым цэментам, яны адзін за адным падыходзілі да мяне, пацiскалі руку і казалі: «Добра зрабіў» на ламанай нямецкай, смяяліся, зазначлі: «Новая праца знойдзеш, добры праца» — і ляпалі па плячах.

— Свіння лайдачая, — сказаў мне шэф, а я пры гэтым нават не трымаў тэтрапак, сядзеў на перавернутым вядры, прыпёршыся спінай да сцяны, спрабуючы зусім ні пра што не думаць.

А я не быў лайдачай свіннёй, нават калі і зацягнуў крыху абедзенны перапынак.

Калі пачаў працаваць грузчыкам у гіпермаркеце, там адразу заўважылі, што я не лайдачная свіння. Я знайшоў гэту працу праз аднаго знаёмага, які працаваў у гэтым гіпермаркеце чатыры гады.

Сем ці восем год таму я дапамог яму з працай, і ён ведаў, што пасля выпадку на будоўлі мне патрэбны грошы. Таму, калі ў аддзеле «размяшчэнне тавараў/ноч» вызвалілася месца, ён прывёў мяне на гутарку. Я ўзяўся за працу закасаўшы рукавы: расстаўляў тавары на паліцах, як мне паказвалі, цягаў за сабою вялікую цялежку, у якую кідаў пустыя кардонныя каробкі і ўпакоўкі. Мне паказвалі, як працаваць з маленькімі гідраўлічнымі цялежкамі, з дапамогай якіх можна было падымаць і перавозіць паддоны. Былі яшчэ электрычныя цялежкі, якія называліся «мурашкамі», на якіх можна было перавозіць адразу некалькі паддонаў адзін на адным, але спачатку мне нельга было іх выкарыстоўваць.

Гэта не быў адзін з тых гіпермаркетаў, у якіх можа закупляцца кожны. Усім пакупнікам набходна было мець спецыяльныя дакументы. Яны павінны былі быць рамеснікамі, прыватнымі прадпрымальнікамі і гэтак далей, каб закупляцца для свайго бізнесу. У гіпермаркеце былі «харчовая» і «нехарчовая» часткі, але я займаўся толькі прадуктамі і напоямі. Гэта была агромністая крама на два паверхі. Уверсе размяшчаліся аддзелы адзення і тэхнікі. «Харчовая» частка знаходзілася на ніжнім паверсе і мела аддзелы «прадукты харчавання», «кандытарскія вырабы», «замарожаныя прадукты», «гастраномія», «садавіна і агародніна» і яшчэ некалькі іншых, якіх я не памятаю.

Праходы паміж паліцамі зрабілі вельмі шырокімі, каб было месца для аўтапагрузчыкаў, якія ездзілі цэлы дзень, нават калі ў краме снавалі пакупнікі. Кіроўцы здымалі вялікія паддоны са стэлажоў, якія сягалі да столі і былі надбудаваны над паліцамі, з якіх пакупнікі бралі тавары.

Спачатку я ўвесь час здзіўляўся, чаму не адбываецца жахлівых няшчасных выпадкаў, чаму паддоны не падаюць з віл пагрузчыка і не забіваюць пакупнікоў, чаму вялікія колы аўтапагрузчыка не расплюшчваюць людзям ногі. Але пазней, калі сам атрымаў пасведчанне кіроўцы і пачаў ездзіць на жоўтым пагрузчыку між стэлажоў, здымаць з паліц паддоны з півам, малаком або мяхамі з мукой, я зразумеў, што гэта ўсё было пытаннем легкадумнасці, асцярожнасці, здольнасці ацэньваць сітуацыю і спрыту. Але мне здавалася, што галоўным была непахісная ўпэўненасць у тым, што калі ты падымаеш альбо апускаеш паддон, то ператвараешся ў цэнтр усяго гіпермаркета.

Мне спатрэбілася колькі часу, каб навучыцца кіраваць аўтапагрузчыкам. Займацца я мог, калі гіпермаркет зачыняўся, а між стэлажоў заставаліся толькі супрацоўнікі аддзела «размяшчэнне тавараў/ноч». Адзін з работнікаў быў экзаменатарам, але, калі я вывучаў і спасцігаў усе таямніцы абслугоўвання і кіравання аўтапагрузчыкам, практычныя ўрокі мне даваў другі шматгадовы работнік. Па сутнасці, гэта былі толькі трыццаць хвілін перад канцом працоўнага дня ў гадзіну ночы. Пад яго наглядам я марудна ездзіў між стэлажоў на пагрузчыку, якім мы пазней карысталіся з ім разам, спыняўся паралельна паліцам, ставіў вілы ў гарызантальнае становішча і з дапамогай гідраўлічнага механізма падымаў іх. Калі вілы дасягалі вышыні паддона, я пачынаў рухацца ўперад, пакуль іх канцы не аказваліся ў праёмах. Потым я націскаў на адзін з рычагоў на прыборнай панэлі, канцы траплялі ў праёмы і вілы ўязджалі ўнутр поўнасцю. Потым націскаўся другі рычаг, і паддон марудна падымаўся.

— У цябе добра атрымліваецца, — гаварыў Бруна, і яго вялікая далонь ляжала перада мною на прыборнай панэлі. — Толькі падымай не так хутка, а то можа зверху ўдарыцца.

Бруна быў даволі вялікім мужчынам і ўвышыню, і ўшырыню, хоць на самай справе больш ушырыню. Яму прыкладна пяцьдзясят з нечым гадоў і ў яго сівыя валасы, але здалёк ён ствараў уражанне барца альбо баксёра-цяжкавагавіка. Яго вялікая галава сядзела на плячах, таму што за адваротамі спяцоўкі амаль не было шыі, а далоні, адна з якіх ляжала перада мною на панэлі пагрузчыка, былі вялікія, як талеркі. На правым прыдалонні ён насіў шырокі скураны бранзалет, накшталт напульсніка. Ён працаваў у аддзеле напояў, дзе здымалі з паліц самыя вялікія паддоны, скрыні з півам, сокамі і іншымі напіткамі, якія для замацавання абматвалі шпагатам, але яны ўсё роўна пагражальна хісталіся сюды-туды.

Бруна працаваў у гэтай краме больш за дзесяць год. І хоць ён не быў начальнікам аддзела, менавіта ён вёў у ім рэй.

— Добра спраўляешся, цыбаты, — гаварыў ён. — Хутка атрымаеш сваё пасведчанне.

Ён называў мяне «цыбаты», як і большасць калег, таму што я быў амаль метр дзевяноста.

— Хопіць, — сказаў я. — Я ж разумею, што не ўсё раблю дасканала.

Ён засмяяўся.

— Ведаеш, чым больш часу табе спатрэбіцца, тым лепш для мяне. Я тут з табою спакойна праводжу час. Лепш, чым батрачыць.

Ён паказаў пальцам у бок аддзела напояў. Праз паліцы я чуў брынканне бутэлек. Адзін з работнікаў цягнуў апошнія за гэты дзень скрыні з півам.

— Аднойчы, — сказаў Бруна, назіраючы, як я спрабую паставіць паддон з пачкамі солі на паліцу. — Аднойчы ў мяне сарваўся паддон з півам. Пару гадоў таму. Шпагат парваўся. Такое здараецца.

Ён запусціў руку ў кішэню і дастаў некалькі шматкоў шпагату. Бруна ніколі не выкідаў шпагат, які мы здымалі канцылярскімі нажамі з вялікіх паддонаў з півам, паспяхова апусціўшы іх уніз.

— Заўсёды можа спатрэбіцца.

У яго быў невялікі ўчастак за горадам, з хлявом і жывёлай. Ён жыў там са сваёй жонкай, якая даглядала жывёлу, пакуль ён працаваў. Ад Бруна заўсёды сыходзіў асаблівы пах, пах жывёл, хлява. Але нельга было сказаць, што ён смярдзіць. Ад яго толькі зусім крыху патыхала, і ў гэтай сумесі пахаў, якую ён прыносіў са свайго двара, было яшчэ нешта, нейкая дзіўная саладжавасць, бліжэй да горка-салодкага, але я так і не разабраўся, што гэта магло быць.

— Ад'язджай, — сказаў Бруна і паглядзеў на свой гадзіннік. — На сёння хопіць.

— О'кей, — сказаў я.

Мне ўрэшце ўдалося паставіць паддон з соллю на прадугледжанае для яго месца, крыху ад'ехаў, потым націснуў на адзін з рычагоў, і вілы вельмі марудна апусціліся з самай вышыні пад шыпенне і цурчанне, што ішлі ад гідраўлічнай сістэмы. Я пачакаў, пакуль вілы не дакрануліся да пліткавай падлогі, а потым нахіліў іх так, што зубцы сталі пад вуглом. «Ездзі толькі з нахіленымі вілкамі. Ніколі не ездзі з паднятымі. Толькі калі грузіш».

Я павінен быў паглядзець некалькі фільмаў, у якіх для запужвання паказвалі самыя жахлівыя няшчасныя выпадкі і іх наступствы: адарваныя канечнасці, расплюшчаныя ногі, насаджаных на зубцы людзей. І чым больш я глядзеў на гэту аўтапагрузачную апраметную, тым часцей я думаў, ці правільнае месца працы я абраў. Але супрацоўнікі гіпермаркета прынялі мяне добра, і я не збіраўся насаджваць іх на зубцы або расплюшчваць ім ногі.

— Паедзеш са мною, Бруна?

— Не, едзь адзін. Толькі не хутка, як трэ.

Іншы раз Бруна станавіўся на нахіленыя вілы, хоць гэта і было забаронена, ды ехаў са мной на стаянку.

Я паехаў, назіраючы, як ён ішоў між стэлажоў у іншым напрамку. Ён крыху горбіўся і трымаў рукі прыўзнятымі, быццам быў гатовы да таго, што з-за паліц на яго нападуць. Я спрабаваў уявіць, як ён працуе са мной на будоўлі, і я тлумачу яму ўсё і ўвожу ў працу. Але не мог уявіць, як гэты чалавек дэманціруе дах. Магчыма, з-за яго сівых валасоў. А яшчэ гэты яго пах жывёл не вязаўся з пылам.

Я паехаў на стаянку, якая была ў задняй частцы гіпермаркета, дзе праводзілася прыёмка тавараў. Я ехаў па пустых праходах, паўз маразільныя камеры і доўгія рады халадзільных вітрын ля сцен. Мы працавалі ў апошнюю змену, і я толькі зрэдку бачыў некага са сваіх калег. Яны снавалі між стэлажоў, даробліваді апошнія справы, стаялі пры сініх століках на колцах і запісвалі ў спісы тавары са зламанымі ці разарванымі ўпакоўкамі, якія мы кожны раз знаходзілі на паліцах. Іншыя на стаянцы падрыхтоўвалі свае пагрузчыкі да ночы. Я яшчэ не ведаў усіх па імёнах. І нават потым, калі я ўжо пэўны час папрацаваў у гіпермаркеце і з горам напалам здаў экзамен па кіраванні пагрузчыкам, калі я размаўляў з імі або мне трэба было папрасіць штосьці, я неўпрыкмет глядзеў на таблічкі з імёнамі на іх спяцоўках.

— Дзякуй, спадарыня Кох, — сказаў я.

Яна ўсміхнулася і прамовіла:

— Без праблем.

Я заўважыў, як яна паглядзела на маю спяцоўку. Але я згубіў сваю таблічку з імем і яшчэ не атрымаў новую.

— Хрысціян, — сказаў я і працягнуў ёй руку.

— Марыён, — адказала яна.

Яна пазычыла мне свой пагрузчык, таму што аднаму з пакупнікоў нездоўга да закрыцця спатрэбілася бутэлька віскі «Уайлд Туркі». Я зняў паддон з віскі з паліцы, даў яму адну бутэльку і потым зноў запоўніў пустую ячэйку. Бруна на сваім пагрузчыку займаўся півам. Была пятніца, лета, і людзі куплялі піва скрынямі.

— Давай вып'ем па каве. Я плачу́.

— Канешне, — сказала яна, і мы пайшлі да кававага аўтамата. У гіпермаркеце былі два кававыя аўтаматы: адзін там, дзе прымалі тавары, а другі перад халадзільным складам. Другі быў бліжэй.

Я ўжо сустракаў яе некалькі разоў між стэлажоў, і мы ківалі адно аднаму галавой. А паколькі яна была вельмі прыгожая, я кожны раз усміхаўся.

Я бачыў яе не кожную ноч, бо яна працавала яшчэ ў дзённую. Толькі мяне і яшчэ пяцёх чалавек ставілі заўсёды ў начную.

— А ты вельмі хутка экзамен здаў.

Яна адпіла крыху кавы, а потым пачала дзьмухаць на маленькія воблачкі пары і ўсміхацца.

— Бруна добры настаўнік, — сказаў я, пазіраючы на таблічку з імем на яе грудзях: «М. Кох, Кандытарскія вырабы».

— Бруна малайчына, — сказала яна. — Да яго заўсёды можна прыйсці, калі табе патрэбна дапамога або калі табе ўсё ўжо ў пячонкі ўелася, і хочацца проста выпіць кавы ды пабалакаць.

Яна ўсміхнулася і дзьмухнула на сваю каву, потым адпіла пару глыткоў.

— А табе, значыць, часта ўсё ў пячонкі ўядаецца?

— Паменш нахабства, навічок.

Яна, трымаючы кубачак у адной руцэ, указальным пальцам вольнай рукі тыцнула мне ў плячо. Потым усміхнулася, і я ўсміхнуўся ў адказ. Было нешта такое ў тым, як яна сябе паводзіла і як размаўляла са мной, што мне падабалася. Нават даволі моцна падабалася. Калі я сеў у яе пагрузчык, то адчуў цяпло на сядзенні, на якім яна толькі што сядзела.

Яна выглядала на пару гадоў старэйшай за мяне, дзесьці на трыццаць з нечым. У яе былі даволі кароткія валасы, з якімі заўсёды нешта было не ў парадку. Мы пілі каву і размаўлялі пра сёе-тое.

Мы доўга стаялі ля аўтамата, і я ўвесь час укідваў грошы і напаўняў нашы кубачкі. Мы стаялі за штабялямі са скрынь і тавараў, таму нас маглі бычыць толькі тыя, хто таксама зрабіў перапынак на каву.

— Я хутка вярнуся.

Я пайшоў да цялежак з прадуктамі, у якіх канчаўся тэрмін прыдатнасці. Часам мне давалі заданне адвезці іх на пляцоўку да кантэйнераў для смецця. Хлеб, шакалад, мяса, малако — усё прыдатнае яшчэ пару дзён. І калі мне хацелася есці, я спрабаваў неўпрыкмет запхнуць у сябе што-небудзь са смачнага перш, чым выкідаць усё ў кантэйнер. Шакаладныя труфелі, чыябата з шынкай серана, малочныя батончыкі. Калі б мяне злавіў на гэтым хто-небудзь з начальства, я мог бы адразу здымаць спяцоўку і сыходзіць з працы. Усё так ці іначай выкідалася, і мне здавалася, што большасць супрацоўнікаў таксама цягаюць употай.

Я разадраў упакоўку шакаладнага пірага, адрэзаў сваім канцылярскім нажом два вялікія кавалкі, засунуў іх у кішэні спяцоўкі і пайшоў да Марыён.

— Я ўжо думала, што табе надакучыла мая кампанія.

— Не, — сказаў я. — Дай мне сваю руку.

Яна паглядзела на мяне запытальна, але потым працягнула далонь, і я дастаў з кішэні кавалак пірага.

— Блін, навічок! — сказала яна. — На прыгоды нарываешся.

Толькі пазней я падумаў пра тое, што на самай справе я падвёў яе пад небяспеку, бо калі б нас злавілі... Але за скрынямі мы былі ў бяспецы, ды, апрача таго, усе начальнікі даўно пайшлі, а начальнік аддзела «размяшчэнне тавараў/ноч» быў вельмі легкадумны, часта знікаў у прыбіральні, каб выкурыць адну цыгарэтку, хоць гэта было і забаронена. Да таго ж аднойчы я бачыў, як ён жаваў, трымаючы ў руцэ вялікую палку салямі. Марыён, здавалася, вырашыла не заўважаць рызыкі, бо яна ўсміхнулася мне, сказала «дзякуй» і пачала есці.

— Што, паклаў на яе вока, цыбаты? Га?

— Ай, не вярзі лухты.

Была дванаццатая гадзіна, і мы ставілі вялікія кардонныя каробкі і ўпакоўкі з сокам на паліцу. Бруна прыхіліўся да пагрузчыка і сказаў:

— Яна замужам, але ён паскуда. Бачыў яго пару разоў, на карпаратывах і калядных вечарынках. Раней, мусіць, быў ніштаваты хлапец, але як страціў працу, дык стаў сапраўдным паскудам. Маеш шанец, цыбаты.

— Ды годзе ўжо, хопіць, — я запхнуў дзве каробкі ў ячэйку. — Яна здаецца мне вельмі мілай, нічога больш.

— О так, яна мілая, наша Марыён.

Ён кіўнуў. Далей мы працавалі моўчкі да дванаццаці. Потым мне трэба было ў аддзел «прадукты харчавання». Там знаходзілася толькі адна жанчына, яе звалі Ірына Палмер, і для яе дваццацікілаграмовыя мяхі з мукой былі занадта цяжкімі. Ірына была вельмі сімпатычная, і, калі мы скончылі, яна павяла мяне між стэлажоў з прадуктамі. Ад яе моцна патыхала халодным дымам і яна даволі шмат кашляла. І пакуль я браў мяхі з мукой з паддона і цягаў іх да паліц, яна знікла ў напрамку прыбіральні.

— Дык вось, глядзі, — сказала яна і павяла мяне паўз стэлаж з макароннымі вырабамі. — Гэта ўсё пытанне навыку. З часам ты заўважыш, але гэта важна, на выпадак, калі ў цябе запытаецца хто-небудзь з пакупнікоў.

Яна кашлянула і правяла рукамі па адваротах спяцоўкі. Ёй было прыкладна столькі ж гадоў, як Бруна, і яна была амаль такая ж ушырыню. Некалькі разоў я бачыў, як яны разам ідуць да прыбіральні. Бруна таксама час ад часу выкурваў цыгарэтку, але не так часта, як Ірына. І кашляў ён таксама не так.

— Дык вось, тут у нас самыя звычайныя спагеці, побач ляжыць кітара, — гэта такая локшына з вугламі — нам яе пастаўляе толькі адна фірма, але асаблівага попыту на яе няма.

Яна даволі хутка рухалася ля паліцы сюды-туды і дакранalася абедзвюма рукамі да ўпаковак і каробак.

— Тут у нас фузілі, гэта такія спіралі. Пэ́нэ лі́шэ, пэнэ рыга́тэ, тартэліні, тартэлоні, макарона, макаранчыні, папардэ́ле — шырокая стужкавая вермішэль. Потым вось тут трэнэ́тэ, вузкая, ратэле для супу, арык'етэ — гучыць, як вуха, выглядае таксама. А калі нехта спытае вермічэлі, значыць, ён хоча спагеці і ён з Сіцыліі.

Яна вымаўляла назвы як сапраўдная італьянка. А рухалася ля паліцы сюды-туды ўсё хутчэй і хутчэй ды паказвала мне макаронныя вырабы, якіх я ніколі не еў і пра якія нават нічога не чуў. А потым, адрэкамендаваўшы мне «фарфале» і «рыгатоні», яна раптам, з той жа інтанацыяй, з тым жа раскацістым «р», сказала:

— Ты лічаш Марыён з аддзела ласункаў ласым кавалачкам, ці не так?
Я засмяяўся.
— Я ж проста прапанаваў ёй выпіць па каве.
Але калі яна кіўнула, пакруціла галавою, як італьянская мама, і адкрыла рот, каб нешта сказаць, я дадаў:
— Але яна сапраўды мілая.
— Паслухай, Хрысціян, — яна падышла бліжэй да мяне, і паколькі не назвала мяне «цыбаты», як усе астатнія ў гіпермаркеце, я адразу зразумеў, што гаворка пойдзе пра нешта важнае. — Дык вось, Марыён вельмі пяшчотная, нават калі па ёй і не скажаш. Я маю на ўвазе, па-свойму, яна… так, што я хачу сказаць, на языку круціцца… але не смей рабіць ёй балюча, зразумеў?..
— Не, — сказаў я, больш не смеючыся. — Гэтага я зусім не хачу.
Яна кіўнула:
— Не хачу ўмешвацца, але Марыён мне вельмі даспадобы.
Потым па гучнагаварыцелі прагучала абʼява начальніка пра канец працоўнага дня. Мы з Ірынай Палмер, якая не пераставала кашляць і ўжо трымала ў руцэ свой пачак цыгарэт, пайшлі да службовага выхада, а потым у раздзявальню.
Прайшло некалькі тыдняў, пакуль я зноў убачыў Марыён. Нейкі час яна працавала ў дзённую змену, але калі я потым перастаў сустракаць яе між стэлажоў і ля кававага аўтамата, Бруна расказаў мне, што яна пайшла на бальнічны.
— Нешта сурʼёзнае? — запытаў я.
— Не ведаю, — адказаў ён, але я бачыў па ім, што гэта няпраўда.
— Ды ладна, давай, кажы ўжо.
— Забудзься пра гэта, — сказаў ён. — Калі яна табе падабаецца, не пытайся.
І мы моўчкі пачалі ставіць упакоўкі з безалкагольным півам, па шэсць бутэлек у кожнай, на паліцу.
За дваццаць хвілін да канца працоўнага дня, калі мы рабілі апошні круг вакол стэлажоў з напоямі, ён сказаў мне:
— Хадзем, я хачу табе нешта паказаць.
Я пайшоў за ім. Мы пачулі, як кашляе Ірына ля макаронных вырабаў, але Бруна ішоў далей, пакуль мы не дайшлі да месца, дзе знаходзіліся рыба і ракі, і ён не спыніўся.
Мы называлі гэты аддзел «мора». За рулоннымі варотамі хаваўся вялікі прылавак. Ля яго, за ім і вакол месціліся басейны і шкляныя вітрыны з жывой рыбай, ракамі і крэветкамі, а таксама ахаладжвальныя скрыні з лёдам, у якіх ляжалі мёртвыя марскія жывёлы. Вароты былі напалову апушчаны, і мы прапаўзлі пад імі. Святло ўнутры было прыглушана, толькі пара неонавых лямп на столі свяцілася жоўтым. Ён падвёў мяне да вялікага рэзервуара, у які ўваходзілі і выходзілі некалькі шлангаў.
— У гэтай вадзе, — сказаў ён, — дакладна тая ж самая колькасць солі, як у акіяне, у якім іх злавілі. Толькі самую крышачку больш або менш, і раней ці пазней яны б памерлі.
*Яны* — гэта вялікія ракі ці амары, што ляжалі побач альбо адзін на адным у рэзервуары так шчыльна, што ледзь маглі рухацца. Я падышоў бліжэй і ўбачыў, што іхнія клюшні звязаны гумкамі.
— Яны ляжаць тут, — сказаў Бруна, — пакуль іх хто-небудзь не купіць.
— Але іхнія клюшні, — сказаў я і ўбачыў, як адзін асабліва вялікі экземпляр паварушыў сваімі звязанымі клюшнямі і дакрануўся да шкла.

— Гэта каб яны сябе не паранілі, разумееш? І тых, хто будзе іх даставаць.

Я сеў на кукішкі перад рэзервуарам, і мой твар апынуўся перад шклом. У іх былі незвычайна доўгія, цёмныя лупатыя вочы, якія, быццам маленькія пальцы, тырчалі з галоў. Амары рухаліся ў вадзе, якая праз шлангі ўлівалася і выцякала з рэзервуара, але ў іх было не вельмі шмат месца, і некаторыя з іх выглядалі так, быццам яны ўжо памерлі альбо былі зусім блізкія да гэтага. Яны вельмі спакойна ляжалі сярод астатніх. Гэтыя вочы, не ведаю, чаму, уразілі мяне.

Потым мы яшчэ пэўны час моўчкі стаялі перад вялікім рэзервуарам, глядзелі на тое, як булькоча вада, і на вялікую гару амараў.

— Паглядзі вунь на таго, — сказаў я. — Гэты гігант вызваліў адну клюшню.

— Дзе? — спытаў Бруна.

Я абышоў рэзервуар і паказаў на амара, які ўвесь час адкрываў і закрываў, адну са сваіх клюшняў. Больш ён ніяк не рухаўся.

— Калі яму хопіць розуму… — сказаў я.

— Маеш на ўвазе, ён мог бы разрэзаць астатнім…

— Уяві сабе, — сказаў я, — заўтра прыходзяць людзі, а ім трэба па-чартоўску напружыцца, каб прывесці ўсё ў парадак…

Бруна засмяяўся, потым пакруціў галавой.

— Я ж табе кажу, цыбаты, яны б толькі паранілі адно аднаго.

— Канец працоўнага дня, — пачулі мы голас з гучнагаварыцеля.

Мы прапаўзлі пад амаль апушчанымі варотамі, Бруна завёз пагрузчык на стаянку, потым мы пайшлі да службовага выхада і ў раздзявальню.

— Падвезці цябе?

— Канешне, — сказаў я, — калі ты не супраць зрабіць круг.

Я заўсёды ездзіў на апошнім аўтобусе, але час ад часу Бруна завозіў мяне дадому, хоць яму і трэба было ў іншы бок.

Мы павесілі спяцоўкі ў шафкі, замкнулі рэчы ў ячэйках, паразмаўлялі крыху з таварышамі па службе. Правялі сваімі карткамі па счытвальніку і рушылі да паркоўкі для супрацоўнікаў, прайшоўшы паўз начальніка, які кожнаму працягнуў руку.

— Наконт Марыён, — сказаў ён, калі мы ехалі.

— Не, — сказаў я, — ты не павінен мне расказваць.

Мы стаялі перад маім домам, ужо развіталіся, але, калі ён ужо хацеў садзіцца ў машыну, я сказаў:

— Як наконт піва? У цябе ж ёсць пятнаццаць хвілін, га?

— Канешне, — сказаў ён і, усміхнуўшыся, зачыніў свой тарантас і вярнуўся да мяне. — Мая жонка ўсё роўна ўжо спіць.

Мы зайшлі і селі ў маленькай кухні. Я прынёс дзве бутэлькі піва і адкаркаваў іх.

— Пацягваеш цэлы вечар піва, — сказаў ён і чокнуўся са мной, — і пачынае хацецца піць, га?

— Мне, бывае, і есці пачынае хацецца, як пацягаем там далікатэсы.

— А смела ты тады з пірагом. Гэта на яе вельмі добрае ўражанне зрабіла.

— А ты ўсё ведаеш.

— Ёй не зашкодзіць, цыбаты, калі нехта час ад часу будзе паводзіць сябе з ёю ласкава.

Кухоннае акно было прыадчынена, і я чуў, як цягнік едзе праз мост.

— Калі хочаш пакурыць, я прынясу попельніцу.

— Так, — сказаў ён. — Дзякуй.

Я схадзіў да шафы. Паставіў попельніцу на стол, і ён закурыў.

— Можаш адразу заснуць, як прыходзіш з працы?

— Не, — сказаў я, — звычайна не магу.

— Я таксама. У мяне ёсць лаўка, у двары перад домам, я там заўсёды сяджу, нават калі халодна. Я выпіваю крыху і гляджу на палі. Я люблю глядзець на палі. Яны ніколі не бываюць цёмнымі. Агні горада, разумееш?

— А ў вас увогуле ёсць дзеці?

— Не, няма.

— Прабач, не мая справа.

— Ды нічога.

Мы маўчалі, пілі і глядзелі праз акно ў ноч. Ён затушыў цыгарэту аб попельніцу і дапіў піва.

— Трэба ісці.

— Я праводжу.

Мы развіталіся на двары перад домам.

— Можам часцей такое ўчыняць, праўда?

— Абавязкова, — сказаў я. — Я быў бы рады.

Ён кіўнуў і пайшоў да машыны.

— Да заўтра, цыбаты.

— Да заўтра.

На наступны дзень і пасля яго ён быў вельмі ціхі. Мы працавалі моўчкі, пасля заканчэння працы ён хутка знікаў, а я ехаў дадому на аўтобусе. Звычайна я быў адзіным пасажырам. Кіроўцы ўжо ведалі мяне і казалі «прывітанне» або «нарэшце дадому, га?» Калі я не быў стомлены, дык стамляўся падчас паездкі. Я прыхіляў галаву да шыбы і, бывала, нават засынаў, але кіроўцы будзілі мяне, бо ведалі, дзе мне трэба выходзіць. Дома я раптам зноў рабіўся бадзёрым і падоўгу сядзяў у кухні, піў піва, глядзеў у ноч і чакаў, пакуль зноў стамлюся.

— Ну што, дасі рады, навічок?

Яна стаяла перада мной, упёршы рукі ў сцёгны, і гнеўна пазірала. Над яе носам былі дзве маленькія зморшчынкі, а валасы здаваліся яшчэ карацейшымі, твар стаў нейкім крыху вуглаватым. Але, магчыма, мне гэта проста здавалася, бо я не бачыў яе тры тыдні.

— Колькі мне трэба яшчэ тут прапрацаваць, каб больш не быць навічком?

— Калі ты мне крыху дапаможаш, я падумаю пра гэта.

— Марыён... — сказаў я.

— Ну што яшчэ? Ты ідзеш? Я ў Бруна ўжо пыталася, але ён заняты.

— Я таксама заняты, але...

— Я магу каго-небудзь іншага папрасіць.

Яна завярнулася і хацела ісці, але я падышоў да яе і сказаў:

— Не збягай, Марыён, я пайду з табой, гэта лухта тут пачакае. Я дапамагу табе заўсёды, калі ты папросіш, ты ж ведаеш.

— Навічок, — сказала яна і павярнулася да мяне, моцна сцяўшы вусны.

— Марыён, — сказаў я.

— Ты занадта шмат гаворыш, — сказала яна. — Трэба трохі папрацаваць. Хадзем.

Яна азірнулася, але ў праходзе нікога не было, узяла маю руку і рушыла наперад. Жанчына трымала маю руку даволі моцна, сціскаючы яе, і я адчуваў яе цяпло. Потым яна раптам адпусціла мяне, і я пайшоў побач з ёю.

— Бруна кажа, што ты добра спраўляешся.
— Сапраўды? Ён так кажа?
— Калі ён так кажа, значыць, гэта праўда. Ірына таксама цябе хваліць.
Я хацеў завярнуць у аддзел кандытарскіх вырабаў, але яна на імгненне зноў узяла мяне за руку і павяла далей.
— Я сёння на замене. Гастраномія і замарожаныя прадукты.
Мы прайшлі праз рулонныя вароты ў халадзільны склад. Я ўбачыў, як яна глядзіць на кававы аўтамат. Але калі заўважыла, што я на яе пазіраю, адвярнула галаву ўбок.
— Зараз апынемся ў Сібіры, — сказала яна. — Лепш апрануцца пацяплей.
Марыён падышла да адной з шафак і вярнулася з дзвюма тоўстымі ватоўкамі і шапкамі. Я дапамог ёй апрануць ватоўку, потым апрануў сваю. Яна дала мне адну з шапак, і я асцярожна надзеў яе ёй на кароткія валасы.
— Гэй! — сказала яна, і я падцягнуў шапку крыху вышэй. — Я ж хачу нешта бачыць. У мяне ёсць спіс, нам трэба прынесці дастаткова для халадзільнікаў.
Яна пачухала галаву праз шапку, а потым паказала на пару калясак для пакупак.
— Вазьмі дзве, а лепш тры. Трэба будзе іх напоўніць.
Мы надзелі пальчаткі, і, стоячы адно насупраць аднаго, захутаныя да вушэй, рассмяяліся.
А потым мы апынуліся ў Сібіры. Мінус дваццаць градусаў, з ратоў ідзе пара. Мы бралі вялікія кавалкі замарожанай свініны і ялавічыны ды кідалі іх у каляскі, гук быў такі, быццам мы кідалі камяні.
— Уяві, каб нас тут зачынілі. У сэнсе, па няўважлівасці.
Я, стоячы на невялікіх драбінах, працягнуў ёй уніз вялікі кавалак аленевай спіны. Пальцам было халодна нават праз пальчаткі.
— А табе б таго і трэба, га?
— Гэй, цяпер нахабнічаеш *ты*.
Я злез з драбін, склаў іх і прыхіліў да сцяны.
— Ну так, — сказала яна. — Нам тады давялося б усю ноч цягаць мяса, каб не памерці ад холаду.
— Напэўна, давялося б.
Мы перасунулі тры каляскі да наступнай паліцы. Дзве мы ўжо напоўнілі. У нас былі чырвоныя твары, скура нацягнулася, быццам зараз парвецца.
— Паскудная халадэча, — сказаў я.
— Не будзь такім недатклівым, мы хутка скончым.
Мы стаялі вельмі блізка, і невялічкія воблачкі пары з нашых ратоў перамешваліся. А калі мы складвалі каробкі з піцай у каляску, яна раптам павярнулася і паглядзела на мяне. Шапка спаўзла ёй на самыя бровы. Я не гаварыў ані слова, толькі глядзеў на яе. Мне здавалася, што я адчуваю яе подых праз тоўстую ватоўку.
— Добра, — сказала яна, — што ты мне дапамагаеш.
Мы пастаялі так колькі часу, нічога не гаворачы. Потым я сказаў:
— Ведаеш, як эскімосы кажуць «добры дзень»?
І сам здзівіўся, як ціха гучаў мой голас у вялікім памяшканні склада, як быццам холад яго праглынаў. Яна глядзела на мяне, і я нахіліў сваю галаву і пацёрся аб яе нос сваім. Яна маўчала і не рухалася, і праз пару секунд я адчуў, што яе нос таксама варухнуўся. У нейкі момант мы зноў павярнуліся да паліцы.

— Цяпер ведаю, — сказала яна.

Потым мы прыбралі апошнія каробкі з піцай у каляску.

Калі я на наступны дзень прыйшоў на працу, то адразу пайшоў да стэлажоў з напоямі. Бруна заўсёды прыходзіў крышку раней, каб прыгнаць са стаянкі пагрузчык, але я не мог знайсці ні таго, ні другога.

У краме было больш пакупнікоў, чым звычайна ў гэты час. Магчыма, на распродажы было некалькі добрых тавараў. Але бываюць дні, у якія людзі хочуць купляць. Я ніколі не разумеў, ад чаго гэта залежыць.

Я ішоў паўз стэлажы. Магчыма, Бруна быў у іншым аддзеле, дапамагаў некаму. Але звычайна ў такіх выпадках пасылалі мяне.

Тады я ўбачыў начальніка аддзела «размяшчэнне тавараў/ноч». Ён стаяў, прыхіліўшыся да паліцы з віскі. Вельмі блізка ад яго праходзілі пакупнікі, але ён, здавалася, зусім не заўважаў іх і глядзеў на падлогу. Я падышоў да яго.

— Вітаю, бос, — сказаў я. — Я шукаю Бруна.

Ён падняў вочы і здзіўлена паглядзеў на мяне.

— Бруна?

— Але, — сказаў я. — Я ж сёння зноў на напоях, так?

— Ты даволі доўга будзеш працаваць тут. Бруна больш не прыйдзе.

Ён глядзеў паўз мяне, і раптам я зразумеў, што Бруна памёр. Я адчуў, што мяне зараз званітуе, і прыхіліўся побач з начальнікам да паліцы.

— Проста ўзяў і павесіўся. Гэты баран проста ўзяў і павесіўся.

У мяне ў грудзях нібы з'явіўся камень, і гэта адчуванне не праходзіла.

— Ніхто не ведае, чаму. Я яго ведаў больш за дзесяць год. Ніхто не ведае, чаму. Бяры яго пагрузчык і займіся справай.

— Добра, Дытэр, — сказаў я.

Мне было цяжка ісці роўна, і я ўвесь час думаў: «Бруна памёр. Бруна павесіўся».

Пакуль я прайшоў на стаянку, сустрэў некалькі супрацоўнікаў. Яны, здавалася, усё ведалі, і мы толькі ківалі адно аднаму галавой. Некаторыя глядзелі на мяне так, быццам хацелі паразмаўляць пра гэта, але я ішоў далей, пакуль не апынуўся перад яго пагрузчыкам. Я выцягнуў вялікі зарадны кабель з гнязда, але забыўся загадзя адключыць ток. Гэта было даволі небяспечна, варта было толькі закрануць рукой кантакт. Я трымаўся за пагрузчык і смяяўся: «Хопіць таго, што ты на тым свеце!» Я сеў у пагрузчык, уставіў ключ і паехаў да стэлажоў.

У пагрузчыку быў той пах хлява і жывёл. Яго пах вісеў у маленькай кабіне, і я б не здзівіўся, калі б яго сядзенне аказалася цёплым. Я паехаў у аддзел напояў і працаваў усю ноч, адчуваючы яго пах.

І зноў гэты пах. Сельскае паветра. Пахла ўгнаеннямі. Я стаяў пасярод вузкай вулачкі, якая вяла да могілак. Я ўжо бачыў іх. Маленькія вароты, дах капліцы. Тады я павярнуўся і пайшоў па дарозе назад. Пахаванне павінна было хутка пачацца. Прыйшло некалькі супрацоўнікаў і начальнікі, я спецыяльна купіў кветкі, але бег назад праз вёску, якая была недалёка ад горада.

Я спыніўся перад яго домам. Ён быў побач з прыпынкам, Бруна пару разоў апісваў мне яго. Гэта быў самы звычайны двухпавярховы катэдж, якія ёсць у многіх вёсках, без усялякіх старамодных рэчаў ці чаго-небудзь такога. Вуліца была пустая, і я пералез цераз плот. Магчыма, вароты не былі зачынены, як гэта, напэўна, прынята ў вёсках, дзе ўсе ведаюць адно аднаго. Але нешта перашкаджала мне зайсці на ўчастак праз вароты. Я абышоў дом. Хлеў, пуні, куры, якія клявалі нешта з зямлі. Потым я ўбачыў кароў на агароджаным лузе. Спачатку я хацеў пайсці ў хлеў, але потым угледзеў лаўку.

Яна стаяла пры задняй сцяне адной з пунь. Я пайшоў да яе. Сеў і пачаў глядзець на палі. Там ехаў трактар з прычэпам. Здавалася, што ён не рухаецца, і толькі па дрэвах, што стаялі па краях поля, я зразумеў, што ён ехаў. Кругом яго лётала некалькі птушак. Навошта мне трэба было ісці ў хлеў? Я ўсё роўна не ведаў, на якой бэльцы ён гэта зрабіў. Я назіраў за трактарам.

— Падымі вілы на самую вышыню, — сказала Марыён.

— Навошта?

— Ну, давай, мне калісь Бруна паказваў. Не ведаю, мне гэта падабаецца.

Я падняў пустыя вілы да самага верху. Пры гэтым пагрузчык рабіў звычайныя гукі: гудзенне і металічны звон. Я адпусціў рычаг, задраў галаву і паглядзеў на вілы, якія яшчэ крыху хісталіся.

— І што цяпер?

— Апускай іх, толькі вельмі павольна. І не кажы нічога.

Я зусім крыху націснуў на рычаг, і мачта разам з віламі пачала марудна апускацца.

— І што цяпер? Я не разумею.

— Толькі нічога не кажы. Зусім нічога. Гук, чуеш? Як шум мора.

І яна мела рацыю. Цяпер я таксама чуў яго і дзівіўся, чаму раней не заўважаў. Вілы апускаліся з шыпеннем і цурчаннем. Гэта было паветра, што выходзіла з гідраўлічнай сістэмы, і гэты гук сапраўды быў крыху падобны да шуму марскіх хваль. Вілы апускаліся далей уніз. Я сядзеў у пагрузчыку, крыху схіліўшы галаву. Яна стаяла перада мною, паклаўшы руку на прыборную панэль.

— Чуеш? — прашаптала яна, і я кіўнуў.

Мы маўчалі і прыслухоўваліся.

## МАЛЕНЬКАЯ СМЕРЦЬ

— Шчасліва, — кажа яна і бярэ сваю сумку з ложка. Я ківаю, і яна сыходзіць.

Я чую, як яна тупае па прыхожай. У мяне там няма святла, і ёй трэба крыху часу, каб знайсці дзверы. Я адварочваюся да сценкі, але яна зачыняе дзверы вельмі асцярожна. Адыход, развітанне, далонь, якая, правёўшы па плячы і руцэ, слізгае ў пустэчу, і я застаюся ляжаць. І бачу сны. Маленькая смерць. Не, смерць наступае пазней, калі ты застаешся адзін і больш ніхто не прыходзіць.

Я чую, як электрычка едзе праз мост. Паварочваю галаву і бачу праз жалюзі агні вагонаў. Электрычка едзе марудна, і я чую яе яшчэ пэўны час пасля таго, як агні ўжо зніклі. Цягнуся назад, да стала, у пошуках цыгарэты, якую кожны раз там пакідаю. Ужо прайшло колькі часу, як я кінуў курыць, але гэта адна цыгарэта ляжыць там увесь час. Я заўсёды загадзя іду да бяззубага, які жыве на самым версе. Худы, як шчэпка, хлапец, што жыве разам з таўстухай.

— Цыгарэту, — мармыча ён і ўхмыляецца.

Ён заўсёды называе мяне Хрысціян, хоць мяне завуць па-іншаму, а я гляджу на апошнія карычневыя абрубкі ў яго роце. Заўсёды застаюся ля дзвярэй, а ён паварочваецца і бяжыць у спальню. Я чую, як ён корпаецца там, а тады са спальні выглядвае таўстуха. На ёй нешта накшталт начной кашулі, а грудзі ляжаць на жываце. Яна ўсміхаецца, і я баюся, што яна выйдзе цалкам. Але бяззубы крычыць нешта, і яна знікае. У каморцы даволі моцна пахне

шнапсам, і бяззубы таксама смярдзіць, як спіртавоз. Ён вяртаецца да мяне, трымаючы ў тонкіх пальцах цыгарэту. Я ледзьве разумею, калі ён нешта гаворыць, і не толькі таму, што ў яго амаль няма зубоў. Часам я ўяўляю, як таўстуха разжоўвае для яго ежу. Я бяру цыгарэту і закурваю яе. Пераварочваюся на спіну і вобмацкам шукаю падушку, але не знаходжу яе.

— Ты такі халодны, — кажа яна мне часам.

Я гляджу на коўдру. Яна падцягнула падушку да сябе і ляжыць з ёй на значнай адлегласці ад мяне. Працягваю да яе руку, але адчуваю толькі падушку. Устаю. Іду да акна і гляджу праз жалюзі на чыгуначны насып. Лесвіца вядзе ўверх да станцыі, ліхтароў. Там з'яўляецца чалавек. Ён вельмі марудна збягае па лесвіцы, і я адварочваюся.

— Ты такі халодны, — кажа яна, і я дакранаюся да свайго твару абедзвюма рукамі, але ён вельмі цёплы.

— Паедзеш заўтра ва ўпраўленне? — пытаецца яна. Я ківаю. — На мінулым тыдні таксама не ездзіў.

— Не ездзіў. Вось заўтра.

Я страсаю попел на падаконнік і зноў кладуся побач з падушкай. Дакурыў цыгарэту да самага фільтра і вельмі асцярожна, агеньчыкам дагары, стаўлю яго на тумбачку. Назіраю за дымам, які вельмі роўна падымаецца ўгору тонкай лініяй. Агеньчык марудна згасае, а я заплюшчваю вочы. Чую, як электрычка едзе праз мост, да дзесяці яна ходзіць кожныя дваццаць хвілін. Еду ва ўпраўленне раніцай, калі ўсё там яшчэ робіцца скора і я хутка вызваляюся, магу выкарыстаць той жа самы білет, каб вярнуцца назад, але ў апошнія гады такое было толькі два ці тры разы.

Я бягу па светлых калідорах, гляджу на нумары побач з дзвярамі. Заснуў у электрычцы, і мяне пабудзіў невысокі мужчына з густымі вусамі.

— Сустрэчы, — кажа ён. — Сустрэчы.

Ён жыве праз некалькі дамоў, але я не бачыў, калі ён садзіўся ў вагон. Ён шмат ездзіць ва ўпраўленне, часта бачу, як ён сядзіць у электрычцы адзін ля акна. Магчыма, часам ён ездзіць ад канцавой да канцавой.

Я бягу па белых праходах, невысокі мужчына некуды знік. Я гляджу на нумары. Дзверы адчыняюцца, людзі знікаюць, людзі выходзяць і бягуць па праходах, я яшчэ раз гляджу на нумары, нешта не так, і я ўстаю. «Тут жа заўсёды было...»

— Не, — кажа жанчына з шыльдай на грудзях. Я стаміўся і не хачу глядзець на яе грудзі. — Яны цяпер на тым баку ў будынку Б.

— Будынак Б, — кажу я і азіраюся, але яна ўжо знікла. Я падымаю рукаў, але майго гадзінніка няма. Дзе мой спраўны срэбны гадзіннік? Мне яго падарылі, але з таго часу прайшло шмат гадоў.

— Сустрэчы, — кажа яна, — каб ты заўсёды памятаў пра сустрэчы, якія назначаў.

Я бягу па светлых белых праходах, невысокі мужчына з густымі вусамі зноў тут, ён стаіць у расчыненых дзвярах, крыху скрывіўшы спіну.

Ён, пэўна, кажа нешта, бо яго галава рухаецца, але я чую толькі жаночы голас: «І вы прыйшлі толькі цяпер?»

Я бягу да ліфта. Націскаю абедзве кнопкі і чакаю. Ліфт пад'язджае вельмі ціха, дзверы адчыняюцца, і я ўваходжу. Унутры нікога няма, і ніякага люстра таксама, я націскаю на «першы паверх», дзверы зачыняюцца, і мы едзем.

Мы едзем. Я гляджу на свой спраўны срэбны гадзіннік. Яна моцна трымае мяне за руку і кажа: «Мы спознімся. Ты спознішся. Яны не дадуць табе іх, бо ты спознішся».

Я хачу нешта сказаць, але толькі гляджу на стрэлку свайго гадзінніка. Мы сядзім у электрычцы, яна так моцна сціскае маю руку, што мне балюча, я азіраюся і шукаю невысокага мужчыну з густымі вусамі.

— Бо ў цябе няма машыны, — кажа яна, а я спрабую насунуць рукаў курткі на гадзіннік і вызваліцца ад яе рукі.

Заплюшчваю вочы і чую, як электрычка едзе праз мост. Расплюшчваю вочы і бачу чатыры цыгарэтныя фільтры, якія стаяць побач на тумбачцы. Чуецца *дзінь*, а потым *дон*, і я ўстаю. Іду да акна і гляджу праз жалюзі на двор. Ля ўваходных дзвярэй стаіць мужчына, за ім маленькі серабрысты «фальксваген». Зноў *дзінь*, а потым *дон*, я хачу пайсці да званка і адключыць провад. Я збіраюся зрабіць гэта ўжо некаторы час, але іду да ложка і кладуся.

Званок маўчыць, зараз ён паспрабуе зрабіць гэта дзе-небудзь яшчэ, але дом пусты. Толькі два прыгажуны жывуць на самым версе, і я спадзяюся, што іх зараз няма, ці што таўстуха ляжыць на ім, і ён не можа падысці на званок, і пакуль яна дабярэцца да дзвярэй, маленькі серабрысты «фальксваген» ужо знікне.

Я нацягваю коўдру так, што застаюцца толькі вочы, і потым, праз некаторы час — ці, можа, прайшла толькі пара секунд — я чую, як з трэскам зачыняюцца дзверы машыны, і пасля — гук рухавіка. Становіцца ціха. Так ціха, што я баюся, што можа зазваніць тэлефон. Я прыслухоўваюся і чакаю. Я не хачу выцягваць штэпсель, і, магчыма, лінію даўно абрубілі. Ім не трэба прыходзіць, каб адключыць тэлефон.

— Цыгарэту, — мармыча хударлявы і ўхмыляецца, а потым пытае: — Не хочаш зайсці на піва?

Але я кажу:

— Не, яна павінна хутка прыйсці, — і ён ухмыляецца, а мне здаецца, што ў яго кожны раз становіцца менш зубоў.

— Хрысціян, — мармыча ён і падміргвае мне.

Аднойчы я ўсё ж быў у яго кватэры. Мусіць, пару гадоў таму, бо тады я яшчэ меў машыну. Серабрысты «фальксваген гольф». Нешта не супадае. У мяне быў маленькі японец, і ён быў белы. Мы глядзім тэлевізар, хударлявы паволі засынае з бутэлькай шнапсу. Я хачу пабудзіць яго, але яна моцна сціскае маю руку і бярэ бутэльку.

— Шмат часу праводзіш адзін, Хрысціян, — кажа яна.

— Не, не, — кажу я, — яна павінна хутка прыйсці...

— Хрысціян, — кажа яна, трымаючы мяне за руку.

Чаму яны не ведаюць, як мяне завуць? Я зняў шыльду з імем з дзвярэй, але гэта было ўсяго пару тыдняў таму, а яны жывуць у гэтым доме ўжо даўно, гэтаксама, як і я.

— Ты такі халодны, — кажа яна.

Мы едзем. Надыходзіць восень, а на возеры мы апошні раз былі ў пачатку жніўня. Ці гэта было мінулым летам?

— Занадта халодна, каб купацца, — кажа яна.

Але я кажу:

— Мы можам проста глядзець на ваду.

І я гляджу. Я прыставіў веласіпед да дрэва і гляджу на возера. Побач нікога няма. Даволі маленькае возера. Вада цёмная з-за неба. У мяне ў кішэні курткі ёсць пара лістоў: з упраўлення, ад гарадскіх камунальных службаў і ад тых, каго я не ведаю. Ад яе таксама ёсць адзін, і я падыходжу да вады так блізка, што амаль кранаюся яе сваім абуткам. Вось падыходзіць маленькая хваля. Падзьмуў вецер, але я не рушу з месца і кідаю лісты ў возера.

Нейкі час яны застаюцца паблізу берага. Потым расплываюцца, я заварочваюся і вяртаюся да дрэва. За дрэвам ёсць невялікі адхон, а за ім — аўтастрада. Я чую яе гудзенне. Мы едзем. Уздоўж адхону ляжаць кучкі смецця, пустыя бутэлькі, пачкі цыгарэт, папера. Я еду марудна, паварочваюся і гляджу на ваду, але лісты ўжо зніклі. Калі я паварочваюся яшчэ раз, бачу: малюсенькую белую плямку паблізу берага. Я еду і больш не гляджу назад, бо ведаю, што маленькая белая плямка ўжо знікла.

Я сяджу на лаўцы каля шашы. За пару соцень метраў ад мяне знаходзіцца вёска, за ёй яшчэ адна, а за ёй — горад. Надыходзіць вечар, і неба за маёй спінай чырвонае. Я куру цыгарэту. Не ведаю, адкуль яна. Яна не той маркі, што курыць сусед. Я даўно не заходзіў да яго, чую толькі яго прыгажуню, як ён яе называе. Яна цягае пустыя бакі ў дом і назад на двор, пасля таго як вывезлі смецце. Магчыма, гэта цыгарэта невысокага мужчыны з густымі вусамі, але ён курыць самакруткі.

— Звык, калі служыў, — кажа ён.

— Дзе ты служыў? — пытаюся я.

— Ды так, дзе-нідзе, — кажа ён, — служыў даволі доўга, — і я ведаю, што ён мае на ўвазе. У яго ёсць пара татуіровак і пара дзяцей, якія амаль цэлы дзень гуляюць на насыпе.

— Бо я так доўга быў далёка, — кажа невысокі мужчына і так паціскае плячыма, што яго галава амаль знікае з віду, — служыў даволі доўга.

Яго жонка такая ж невысокая, як і ён. Часам я бачу яе, калі яна забірае дзяцей з насыпу. Дзве мухі сядзяць на маёй назе. Яны не рухаюцца, нават тады, калі я хачу іх здзьмухнуць. Зараз тая пара года, калі паміраюць мухі. Яны сядзяць на маёй назе, ушчыльную адна да адной, вось адна рухае крыльцамі, зусім нядоўга, і я асцярожна ўстаю.

Дзесяць гадзін. Сіні нуль робіцца адзінкай. Давялося шмат шукаць, каб знайсці будзільнік з сінім экранам. Мы былі ў краме, у якой прадаваліся толькі гадзіннікі. Гэта там яна купіла мне гэты спраўны срэбны гадзіннік? Маленькая сіняя адзінка робіцца двойкай. Я стаю ў прыцемку і не рухаюся. Гэтай раніцай не становіцца светла, гэта ўсё з-за неба. На экране будзільніка нічога няма, але я назіраю за стрэлкамі на сваёй руцэ. Прыходзілі з камунальнай службы, і ў кватэры цёмна. Я не ведаю, колькі ўжо прайшло часу, і мне нестае маленькіх сініх лічбаў. Я хачу зноў легчы, але я не пазнаю падушку. *Яны* шмат званілі, тэлефон працуе і ў прыцемку.

— Чаму вы не прыехалі ў прызначаны час?

Я хачу расказаць ім пра невысокага мужчыну з густымі вусамі, які больш не кіруе электрычкай, але кажу толькі:

— Я шмат стамляюся апошнім часам.

— Мы вымушаны прыпыніць вашы выплаты.

«Гэта ўсё з-за будзільніка», — хачу сказаць я, але яны дакладна ведаюць пра спраўны срэбны гадзіннік на маёй руцэ.

— Гэта я, — кажа яна аднекуль.

Я кажу:

— Як у цябе справы? Дзе ты?

— Добра, — кажа яна. — Я званіла. Некалькі разоў.

— Я, напэўна, гуляў, — кажу я, а потым чуецца *пстрык*, недзе там, дзе яна, і я пазнаю гэты гук. Гэта запальніца, а яна не курыць.

Я трымаю трубку крыху на аддаленні, таму што гэтае *пстрык* усё яшчэ аддаецца ў мяне ў вушах.

— Дзе ты? — пытаюся я і слухаю яе голас, а потым маўчу і чакаю, пакуль зноў пачуецца *пстрык*, іншы гук, зусім іншы гук, і яна знікае.

Я іду да тумбачкі і бяру запальніцу. Я запальваю яе і гашу, а потым зноў запальваю. Я саставіў фільтры кругам. Даю полымю крыху пагарэць, а потым зноў хачу пачуць той гук. Маленькая смерць. Ані гуку ў кватэры, нават халадзільнік на кухні маўчыць. Я асцярожна кладу запальніцу на падушку і іду да акна. Гляджу праз жалюзі на чыгуначны насып. Ліхтары свецяцца жоўтым, пэўна, ужо вечар.

Я стаю ў жоўтым святле і гляджу на вуліцу, а потым на свой дом. Ва ўсіх вокнах цёмна. Хударлявы і яго прыгажуня таксама сядзяць у прыцемку, але, магчыма, яны пайшлі, зараз пачатак месяца. Уніз па вуліцы ёсць невялікая піўная, але яны могуць быць і ў італьянца ў суседнім квартале. Хударлявы ўсмоктвае спагеці сваім бяззубым ротам, а яна назірае за ім і ўсміхаецца.

Я саджуся на лесвіцу, бутэльку заціскаю паміж ног. Адкручваю накрыўку і выкідваю яе. Некалькі машын едуць па вуліцы, стала халаднавата, я п'ю. Тады запальваецца святло. Высока, на пятым паверсе. Акно не занавешана, але ў ім нікога не відаць, толькі вялікае плюшавае медзведзяня сядзіць на падаконніку. Я адчуваю, што ўсміхаюся. Я чую ззаду электрычку і машыны ніжэй па вуліцы, але бачу толькі вялікае плюшавае медзведзяня пасярэдзіне падаконніка. Я не ведаю, колькі на яго ўжо гляджу. Куточкамі вуснаў я адчуваю ўсмешку, потым бяру бутэльку, закідваю галаву і п'ю. На небе самалёт, ён крыху нахіляецца набок і ляціць па дузе да аэрапорта за горадам.

— Як справы?

Я апускаю бутэльку і працягваю яе невысокаму мужчыне. Яго густыя вусы зніклі, твар апух, а на верхняй губе налеплены вялікі пластыр. Ён закідвае галаву, п'е і бачыць самалёт.

Потым ён садзіцца побач са мною.

— Гэта такія дзівосныя ніці, — кажа ён і дакранаецца злёгку да сваёй верхняй губы. — Яны растаюць. Праз некаторы час. Самі.

Ён спрабуе ўсміхнуцца, але ў яго не атрымліваецца. Відаць, гэта балюча.

— Дзівосныя ніці, — кажу я, і ён ківае. Ён працягвае мне адну са сваіх самакрутак.

— Ты яшчэ кіруеш электрычкай?

Я кручу калавой, і ён зноў ківае. Ён сядзіць даволі блізка да мяне, і я адчуваю, як ён увесь абмякае і прыхіляецца да мяне плячом. Мы п'ём і маўчым.

Я стаю ля акна і гляджу праз жалюзі на чыгуначны насып. Ліхтары свецяцца жоўтым, пэўна, ужо вечар. У святле ліхтароў стаіць чалавек. Ён адварочваецца.

***Пераклад з нямецкай Льва ГЛУШЫЦКАГА***

***Clemens Meyer. Die Nacht, die Lichter. Stories. Frankfurt am Main 2008***